*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

**ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!**



# ЗВАЖАЙ

**Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў**

**ZVAZAJ – Magazine, published quarterly by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Address: *CANADA: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2***

***U.S.A: Assn of Byelorussian-American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904***

Год 9 | Верасень, 1983 | № 3(31)

## ЗА ВОЛЮ!

*Беларуска-Амэрыканскім Вэтэранам*

Пазьмятаў час сьляды гулкіх бітваў,
Толькі сэрца крывавіць, баліць, –
Гаспадарыць Маскаль ненасытны
На пакутнай, забранай зямлі.

Зьдзекі й глум, і забойствы, праклёны,
І лютуе з ГУЛАГу бандыт,
Ярмо цягне калгасны прыгоньнік,
І сыцее партыйны найміт.

Шумяць сумна лясы Налібокаў,
Песьціць Нёман свае берагі,
А выгнанцу ў чужыне далёкай
Сьніцца страчаны край дарагі.

Але мы, на зямлі Вашынгтона,
Прадаўжаем за волю паход,
Бо змаганьне дасьць шчодрыя плёны:
Будзе вольным ізноў наш народ!

Мы – выгнанцы з раськіданых гнёздаў
Каліноўскі нам даў запавет.
Бог із намі, а голас народу,
Што ў змаганьні, пачуе ўвесь сьвет.

Мы гаворым із поўнай навагай
Тым, што з нашых жывуць мазалёў:
Выбірайся, сусьветны брадзяга,
З нашых сёл, гарадоў і палёў!

Ты ня зглуміш народ наш вялікі,
І ня змусіш нас больш сьпіны гнуць,
А за прошлае будуць разьлікі,
Бо расплаты табе ня мінуць!

Вось чаму на зямлі Вашынгтона
Прадаўжаем за волю паход
Прыйдзе час і паўстануць мільёны,
Будзе жыць Беларускі Народ!

*К. Акула* *Таронта, сакавік, 1983 г.*

---

## УШАНАВАЛІ СЬЦЯГ І ПІСЬМЕНЬНІКА

Сёлета 22-га травеня ў Нью Брансвіку Беларуска-Амэрыканскія Вэтэраны адзначылі 35-я ўгодкі высьвячэньня свайго вэтэранскага сьцягу, а разам і 40-я ўгодкі творчасьці пісьменьніка К. Акулы, рэдактара часапісу "Зважай".

На сьвятой Літургіі ў Царкве Жыровіцкай Божай Маці стаяла сьцяжная варта, а а. Аляксандар віншаваў вэтэранаў і прысутнага пісьменьніка К. Акулу. Сьвята пачалося песьняй "Беларусь, наша Маці-краіна" ў царкоўнай залі. Пасьля абеду першым выступаў кап. С. Гутырчык, цікава расказаў пра пачаткі арганізацыі вэтэранаў у Нямеччыне дый пра сьцяг, здабыты стараньнем сп. Асіпчыка й іншых.

Старшыня БІНІМу, др. В. Кіпель прачытаў прывітаньні Кастусю Акулу ад д-ра В. Тумаша, д-ра Я. Запрудніка К. Мерляка ды вітаў яго ад Інстытуту. Ён адзначыў значны Акулаў уклад у беларускую літаратуру й журналістыку, а таксама немалую колькасьць англамоўнага Акулавага матар'ялу, пераважна ў канадыйскай прэсе.

Др. Кіпель гаварыў і пра вэтэранаў, затрымаўся над архівам ген. Ф. Кушаля, ды ягонуючы, на 300 машынапісных бачын працу, якую раіў вэтэранам выдаць. Прамоўца цьвердзіў, што, ня гледзячы на перашкоды, беларускі нацыянальна-вызвольны рух расьце й пашыраецца. Пра гэта яўна сьветчыць рэакцыя нашых ворагаў.

Сьцяжная варта ў Царкве

У далейшым пісьменьніка Акулу віталі: ад БАЗА – яго старшыня А. Шукелойць, ад Беларуска-Амэрыканскае Моладзі – інж. Ю. Азарка, ад Ньюёркаўскага адзьдзелу БАЗА – А. Міцкевіч. Сп. П. Кажура згадваў пра вэтэранскую працу, а сп. Я. Азарка жадаў, каб Акула больш пісаў пaангельску. Усе прысутныя засьпявалі Акулу "Сто год!".

Пісьменьнік урачыста прачытаў свой нованапісаны й прысьвечаны вэтэранам верш "За волю" (зьмешчаны вышэй), дзякаваў прысутным за матар'яльную й маральную падтрымку пры выданьні кніжак і часапісу "Зважай" Сьмех і задаваленьне выклікаў Акулаў сатырычны верш "Ашаўскай Сабепомачы зычлівае слова ад суседа".

Сьвяга закончылі адсьпяваньнем гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

За галоўным сталом зьлева направа: Зора Кіпель, Ант. Шукелойць, В. Кіпель, К. Акула, С. Гутырчык.

*Усе здымкі А. Дубягі*

# ЭТНІЧНЫ ФАКТАР ПРЫ КАМПЛЕТАВАНЬНІ ПАДАФІЦЭРСКІХ І АФІЦЭРСКІХ КАДРАЎ У САВЕЦКІХ УЗБРОЕНЫХ СІЛАХ

У артыкуле пра савецкую прызыўную сыстэму, надрукаваным у № 30 "Зважай", мы зьвярнулі ўвагу на важнасьць пытаньня камплетаваньня падафіцэрскіх і афіцэрскіх кадраў у савецкіх узброеных сілах, на іхны нацыянальны склад і на палітыку камплетаваньня ваенных школаў у СССР, адзначаючы, што якраз дзеля гэтае важнасьці, пытаньнем гэтым варта заняцца асобна, што й робім у гэтым нумары.

Вось-жа паводля брашуры-манаграфіі Уімбуша й Аляксеева "Этнічны фактар у савецкіх узброеных сілах", выдадзенай летась амэрыканскай дасьледніцкай карпарацыяй Ранд, сяржанты бываюць двух тыпаў. Адны – ваеннаслужачыя тэрміновай службы, якія даслужыліся да гэтага званьня. Другія – кадравыя ваенныя, людзі, якія пажадалі застацца на звыштэрміновую службу. Сярод сяржантаў першай з гэтых двух катэгорыяў большасьць складаюць Славяне. Вайсковыя неславянскага паходжаньня часьцей за ўсё не прасоўваюцца далей малодшага сяржанта, дзеля чаго зусім не абавязкова канчаць сяржанцкую школу. У такога роду сяржантаў, – адзначаюць аўтары манаграфіі, – вельмі мала ўлады й часамі менш аўтарытэту, чымся ў звычайных старaслужачых жаўнераў.

Іншая справа – тэрміноваслужачыя сяржанты ў будаўнічых батальёнах. Там такі сяржант іншым разам – цар і Бог. Прычым для вылучэньня з радавых ці яфрэйтараў навет ня трэба асаблівай падрыхтоўкі. Дастаткова добра ведаць расейскую мову. Прычына? Толькі такія людзі могуць забясьпечыць дысцыпліну й добрую якасьць працы сваіх аднапляменьнікаў-жаўнераў.

У другой катэгорыі сяржантаў звыштэрміновых выхадцаў зь неславянскіх народаў, асабліва-ж ураджэнцаў сярэдняазіяцкіх рэспублік, не сустрэнеш. А тон у гэтай групе вайсковых, як із зьдзіўленьнем паведамляюць аўтары дасьледваньня, задаюць зусім не Расейцы, а... Украінцы. Іхны працэнт там куды большы чымся працэнт Украінцаў між Славянаў Савецкага Саюзу.

Прычынаў ёсьць некалькі. З пункту гледжаньня ўлады Украінцы ёсьць уроджанымі сяржантамі. І ім заўсёды аддаюць перавагу. Гэтак было й да кастрычніцкага перавароту. Украінцы, як ніхто іншы, прагнуць павышэньня ў званьні. Для бальшыні людзей у арміі найвышэйшай узнагародай ёсьць атрыманьне адпачынку. Але не для Украінцаў. Павышэньне іхнае ўлады над іншымі вайсковымі для іх самае галоўнае. "Усе пасады звыштэрміновых у маей часьці, – заявіў адзін з апытаных былых ваеннаслужачых, – былі занятыя Украінцамі. Ім куды больш, па сваей прыродзе, уласьцівае жаданьне камандаваць, чым расейскім людзям..." Наагул, каля 75% усіх звыштэрміновых у арміі – людзі ўкраінскага паходжаньня." Гэта прыдзірлівы народ, які радавыя жаўнеры ненавідзяць і якога баяцца..." – заявіў іншы з апытаных.

У адказ на пытаньне, чаму жаўнеры наагул застаюцца на звыштэрміновай службе, многія з апытаных, – а было іх 130, нядаўных савецкіх грамадзянаў, – адказалі,

што галоўнай прычынай гэтага ёсьць тое, што калі ты радзіўся ў вёсцы, дык жыць табе там усё жыцьцё. У СССР існуюць толькі дзьве магчымасьці, каб вырвацца зь сяла: паступіць у ВНУ, або стацца кадравым вайсковым. Для калгасных хлопцаў рэальная толькі гэта другая магчымасьць. Вытрымай тры гады звыштэрміновай службы й дарога табе адкрытая куды хочаш. Мала таго, ёсьць магчымасьць нядрэнна ўладзіцца дзесьці ў вялікім горадзе. Пасьля дэмабілізацыі, амаль усім прапануюць паступіць у міліцыю, або навет у КДБ. Ды і ў арміі звыштэрміновым зусім нядрэнна, бо яны забясьпечаныя лепш чымся ў калгасе.

Паводля манаграфіі Уімбуша й Аляксеева, афіцэрскі склад дамінуюць не Украінцы, а Расейцы й толькі рэдка трапляюцца тут асобы зь Сярэдняе Азіі, Каўказу, Жыды. Апошнім часам працэнт Расейцаў між афіцэраў яшчэ больш вырас. Прычыны?

Іх, у галоўным, дзьве: папершае, на этнічным складзе афіцэраў адбілася чыстка афіцэраў-Жыдоў, праведзеная Сталінам у пачатку 50-х гадоў. Потым былі тры хвалі дэмабілізацыяў пры Хрушчове, калі ў першую чаргу дэмабілізавалі афіцэраў неславянскага паходжаньня. У выніку, у сучасны мамэнт, каля 80% а мо й больш афіцэраў – гэта Расейцы. Ад 10% да 15% – Украінцы й Беларусы, ды рэшта іншых.

Якім спосабам дасягаецца такі вялікі працэнт афіцэраў-Расейцаў? Папершае, сыстэма ваеннай адукацыі ў СССР, што дастаўляе вялікую частку афіцэрскіх кадраў, ужо паводля сваей спэцыфікі перашкаджае нерасейскім нацыянальнасьцям станавіцца афіцэрамі. Перашкодай, прыкладна, можна лічыць абавязковыя ўступныя акзаміны з расейскай мовы й літаратуры. І хоць ніхто з апытаных ня мог спаслацца на нейкія канкрэтныя інструкцыі, што абмяжоўвалі-б прыём у ваенныя школы й акадэміі асобаў нерасейскай нацыянальнасьці, у існаваньні такіх правілаў ніхто ня сумляваўся. Апроч таго, відаць зусім ня выпадкова большасьць ваенных навучальных установаў знаходзіцца ў заселеных Славянамі мясцовасьцях РСФСР.

Падругое, перавага афіцэраў расейскага паходжаньня забясьпечваецца практыкай дабраахвотна-прымусовага набору афіцэрскіх кадраў. Выпускнікам ВНУ-супрацоўнікі ваеннай катэдры або іншых установаў прапануюць паслужыць ад двух да пяці год у арміі. Каб не пашкодзіць сваей будучай кар'еры, адмовіцца ад такой прапановы практычна няма магчымасьці. Гэтак становяцца афіцэрамі людзі шматлікіх прыкладных спэцыяльнасьцяў, якія маюць і ваеннае значэньне – для прыкладу, лекараў. Бызае й так, што калі тэрмін службы такога афіцэра канчаецца, дык яго пакідаюць у абавязкавым парадку.

Трэцяй прычынай упаду ліку афіцэраў неславянскіх нацыянальнасьцяў аўтары дасьледваньня бачаць у дыскрымінацыі такіх афіцэраў. Як правіла, афіцэры неславянскага паходжаньня вышэй маёра ніколі не авансуюць. Часта навет і функцыі афіцэраў залежаць ад іх этнічнага паходжаньня. Гэтак, афіцэры-Украінцы служаць часта або палітработнікамі, або страявымі афіцэрамі ў стралковых адзінках. Афіцэра - прыбалты амаль усе зьвязаны з тэхнічнымі спэцыяльнасьцямі. Дый сярод афіцэраў - Жыдоў большасьць або тэхнікі спэцыялісты, або – як ня дзіўна! – заступнікі палітрукоў.

Што-ж датычыцца сыстэмы ваеннай падрыхтоўкі й ваеннай адукацыі, дык паводля аўтараў манаграфіі, выхадцам з асяродзьдзя малых народаў Сярэдняе Азіі й Каўказу шлях да складанай баёвай тэхнікі практычна забаронены. Наагул, курсантаў неславянскага паходжаньня налічваецца каля 10%, ня больш. Ім не давяраюць і іхныя тэхнічныя веды сьведама трымаюць на нізкім узроўні.

Зусім накш выглядае справа з сыстэмай ваенна-навучальнай. Тут, як цьвердзяць аўтары дасьледваньня карпарацыі Ранд, пануюць зусім іншыя парадкі. Ваенныя школы й акадэміі адчуваюць войструю патрэбу ў курсантах і слухачох, бо прэфэсыя афіцэра ў вачох моладзі Савецкага Саюзу перастала быць прэстыжнай. Таму яны ўзахапы стараюцца завабіць кажнага кандыдата, ня гледзячы на яго этнічнае паходжаньне. А калі і існуюць нейкія абмежаваньні, дык яны адносяцца вылучна да ўраджэнцаў, што прадстаўленыя і ў некамуністычным сьвеце – скажам, Немцы (ФРН), або Жыды (Ізраэль).

Каб неяк заахвоціць моладзь у ваенныя школы, прыцягваюцца на помач камсамольскія ворганы. Гэтак, ЦК Камсамолу рэспублікі высылае тайную дырэктыву п. наз. "Аб парадку прыёму ў ваенную школу". Камітэты Камсамолу ўсіх узроўняў атрымоўваюць лісту кандыдатаў, якіх яны павінны адправіць. У ваенна-марскія школы асабліва актыўна набіраюць людзей неславянскага паходжаньня. З гэтай мэтай навет зьнізілі патрабаваньні: кандыдаты неславяне атрымалі цяпер магчымасьць здаваць акзаміны ў роднай мове.

Такая палітыка камплетаваньня школаў ідзе ў разрэз з ранейшымі правіламі. Калі, як мы бачылі, раней больш як 80% афіцэраў былі Расейцамі, дык, як выглядае, цяпер існуюць інструкцыі адносна прыцягваньня ў афіцэрскі корпус нерасейскіх і неславянскіх элемэнтаў. Відаць такім шляхам каманднаваньне савецкіх узброеных сілаў рыхтуецца да напльіву большага ліку навабранцаў – выхадцаў з народаў Закаўказа і Сярэдняе Азіі, які прадбачваецца ў недалёкай будучыні ў сувязі з тым, што там нараджальнасьць непараўнальна большая, чым у славянскіх народаў. Паводля падліку замежных дэмографаў, пры канцы гэтага тысячагодзьдзя Славяне будуць складаць толькі палову асабовага ліку савецкіх узброеных сілаў. А гэта пачынае трывожыць маскоўскіх кіраўнікоў, імпэрыялістычны апэтыт якіх аніяк ня меншае, наадварот – расьце.

*В. Сяньневіч*

**************************************************

## *АФГАНСКАЯ ВАЙНА ВАЧМІ САВЕЦКІХ ВАЯКАЎ.*

Вайна ў Афганістане трывае ўжо чацьверты год. Масква стараецца скрываць ад народу праўду пра гэту неабвешчаную, брудную, бязьлітасную вайну, пра страты забітымі й раненымі. Але найбольшы сакрэт, які старанна скрываюць ад народаў СССР савецкія ворганы інфармацыі, – гэта адносіны савецкіх ваенных да афганскай вайны.

Згодна мяркаваньняў заходніх спэцыялістаў, цяпер у Афганістане ёсьць каля 150 тысяч савецкага войска. За больш чым тры гады кантынгент яго абнаўляўся не аднойчы. Спэцыялісты ўважаюць, што ў Афганістане было,а потым вярнулася на бацькаўшчыну каля 300 тыс. ваеннаслужачых. Зразумела, што кажны зь іх атрымаў пра гэну вайну сваё ўражаньне. Апавяданьні пра вайну расплываюцца па ўсім Савецкім Саюзе, ствараючы ў народзе пэўны погляд. Уражаньні савецкіх ваякаў не выражаюць погляду рэжыму, а таму не трапляюць на бачыны газэтаў і часопісаў, у перадачы радыё й тэлебачаньня. Тым больш цікавымі становяцца выказваньні асобных удзельнікаў гэтай імпэрыялістычна-каляніяльнай вайны, якія ўдалося сабраць заходнім карэспандэнтам.

Некаторымі з гэтых выказваньняў нядаўна падзяліўся маскоўскі карэспандэнт газэты "Лос Анджэлес Таймс" Робэрт Джылет.

У рэстаране, — піша амэрыканскі журналіст, — сабралася кампанія; у ёй падвыпіўшы лейтанант, які прыехаў на адпачынак з Афганістану. Ягонае прызнаньне, што ён ня хоча больш сустракацца із сваімі аднапалчанамі, выклікае між прысутных запраўдны шок. І шок гэты ня зьдзіўляе, — піша Р. Джылет, — бо савецкія людзі выхаваныя на патрыятызьме, яны ганарацца перамогамі ў Другой сусьветнай вайне. Іх літаральна задушылі кнігамі, артыкуламі, фільмамі, тэлеперадачамі пра слаўныя дні змаганьня з фашызмам. І раптам іхны прыяцель заяўляе, што ня хоча больш ваяваць, абараняць гонар бацькаўшчыны.

Ды афіцэр тлумачыць ім, што вайну ня трэба ідэалізаваць, бо вайна, — гаворыць ён, — гэта бязьлітасьць. Таксама, як гэты афіцэр, шмат хто з тых, што вярнуліся з Афганістану, прыносяць дахаты пачуцьцё горычы, злосьць і страшныя ўспаміны.

Некаторыя расказваюць сваяком і сябром пра бездапаможнасьць савецкіх войскаў, што ня могуць задушыць супраціву афганскага народу. Яны расказваюць пра фанатычнасьць Афганцаў, якія ўсюды навокал, але якіх ніколі ня бачыш. Іншыя гаворыць пра вялікія страты забітымі й раненымі, пра расстрэлы нарушальнікаў дысцыпліны, пра сьмерць ад хваробаў.

Вэтэраны вайны апавядаюць пра шырока распаўсюджаную між савецкіх жаўнераў звычку курыць марыхуану (лісьце канаплёў) і гашыш. Ёсьць таксама намёкі на тое, што некаторыя савецкія жаўнеры, галоўным чынам нававбранцы, бываюць бязьлітаснымі. Некаторыя афіцэры гавораць пра няздольнасьць савецкіх войскаў весьці вайну ў гарыстай мясцовасьці. Летась летам адзін падпалкоўнік авіяцыі, прыехаўшы на адпачынак, сказаў свайму знаёмаму, што, на ягоны погляд, становішча савецкіх войскаў у Афганістане проста жудаснае.

Р. Джылет прыводзіць наступныя словы падпалкоўніка: "Вы страляеце, але ня бачыце ў каго!" Танкі — асноўная ўдарная сіла савецкіх войскаў — у Афганістане малаэфэктыўныя. "Што танкі могуць зрабіць у горах?"

Паводля Р. Джылета, ніхто з вышэйзгаданых расказчыкаў аб падзеях у Афганістане, сьветкамі якіх яны самі былі, нічога ня ведаў пра ўжываньне савецкімі войскамі атрутных газаў.

Ёсьць, аднак, і іншыя сьветчаньні. Нейкі малады афіцэр, які мінулай вясной выйшаў із шпіталю, расказваў свайму сябру пра сваю хваробу. У яго былі пашкоджаныя лёгкія праз паданьне ў іх хімічных атрутных рэчываў і лекары мяркавалі, што пражыве ня больш пяці гадоў. Як гэта здарылася? Афіцэр адмаўляўся растлумачыць навет свайму сябру. Гэта была ваенная тайна. Хутчэй за ўсё, афіцэр гэты стаўся ахвярай няшчаснага выпадку ў час выкарыстаньня хімічнай зброі супраць афганскіх патрыётаў.

Савецкія ўлады ніколі не інфармуюць пра свае страты ў Афганістане. Спэцыялісты з амэрыканскага міністэрства абароны ўважаюць, што за тры гады савецкае войска мае параўнальна невялікія страты — 5 тысяч забітых і 10 тысяч параненых. Сярод насельніцтва СССР, адзначае Р. Джылет, існуе перакананьне, што на самай справе страты ёсьць значна большыя, у прыватнасьці, таму, што шмат парушальнікаў дысцыпліны расстрэльваюць.

Ад сябе дадамо, што паводля навет самых сьціплых ацэнак некаторых заходніх спэцыялістаў, у Афганістане загінула да 15 000 савецкіх ваеннаслужачых і каля 20 тыс. ранена. З гэтай колькасьці каля 1 400 прыпадае на Беларусаў.

Амэрыканскі карэспандэнт прыводзіць вытрымку зь ліста аднаго маладога жаўнера з Уралу, які ён напісаў сваім маскоўскім сябром. У гэным лісьце ён піша, што з вайсковай адзінкі лікам 10 чалавек засталіся жывымі толькі два. Чаму і як загінулі іншыя, ён ня піша.

Няма сумлеву, што расказы тых, якія вярнуліся ўжо з вайны, выклікаюць і, відавочна, будуць выклікаць яшчэ больш няпрыемнасьцяў для крамлёўскіх кіраўнікоў, але заходнія наглядальнікі мяркуюць, што гэтыя няпрыемнасьці не пахіснуць імкненьня Масквы застацца ў акупаваным Афганістане.

*ал — яб*

В. Сянькевіч.

## ДА ПЫТАНЬНЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ВАЕННАЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

*(Працяг. Пачатак гл. № 2(30)*

Перад тым, як перайсьці да далейшых разважаньняў над гэтым пытаньнем, неабходна крыху спыніцца над самым тэрмінам "ваенная гісторыя". Што пад ім разумеецца?

Вось-жа, паводля Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі (гл. т. 2, б. 549), "Ваенная гісторыя — гэта галіна ваенных ведаў, якая абагульняе вопыт войнаў. Яна ўключае: гісторыю войнаў (іхныя палітычныя мэты й характар, прычыны ўзьнікненьня, перамогаў і паражэньня, сілы, пляны, страты, ход падзеяў, эканамічныя й палітычныя вынікі); гісторыю ваеннага майстэрства (спосабы й хвормы ўзброенай барацьбы на розных гістарычных этапах, заканамернасьці і ўзаемасувязь ваенных падзеяў з эканомікай, палітыкай і грамадзкім ладам дзяржавы, гістарычны вопыт і ягоны ўплыў на вядзеньне войнаў у сучасных умовах); гісторыю ведаў узброеных сілаў, баёвай тэхнікі, сродкаў і спосабаў выкарыстаньня відаў узбраеньня).

*************************************************

Дапаможныя дысцыпліны – гаворыцца далей у БелСЭ, – гэта ваенная гістарыяграфія, крыніцазнаўства, археаграфія. Ваенная гісторыя раскрывае таксама суб'ектыўныя фактары: ролю палкаводцяў, здольнасьці камандзераў у арганізацыі баёвых дзеяньняў і маральнага духу войскаў. Вывучэньне вайсковай гісторыі ўзбройвае ваенную навуку абгрунтаванымі вывадамі пра пэрспэктывы разьвіцьця ваеннай справы".

У папярэднім, № 30 "Зважай", мы спыніліся шырэй на пытаньні разьвіцьця й сучаснага стану агульнай беларускай гістарычнай навукі, бо ваенная (ці вайсковая) гісторыя ёсьць аднэй зь яе галінаў, неад'емнай часткай яе. Добрае веданьне агульнай гісторыі дапамагае ўстанавіць дакладней і гісторыю вайсковай справы.

Але тады, калі ў агульнай нацыянальнай гісторыі Беларусі зроблена ўжо параўнальна шмат, дык у галіне вайсковай гісторыі і, зыходзячы з дэфініцыі, якую дае ёй БелСЭ, зроблена надзвычай мала. Не памылімся, калі скажам, што гэтая дзялянка належыць якраз да найменш распрацаваных у беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі.

Пра савецкую-ж гістарычную навуку й гаварыць не даводзіцца, бо, паколькі паводля яе, беларускі народ быў безьдзяржаўным у мінулым дык, зразумела, і ваеннай гісторыі мець ён ня можа. У выніку пытаньне гэтае наагул ніколі ў савецкім друку і не закранаецца. Але пра гэта гутарка будзе іншым разам.

А ўсё тое, што на гэту тэму зьявілася на працягу апошніх 65 год у беларускім нацыянальным друку, зводзіцца да матар'ялаў, якія могуць толькі паслужыць крыніцай да абагульняючай навуковай працы. Іх ніяк нельга назваць гісторыяй вайсковых справаў на беларускіх землях хоць вартасьць іхная часамі вельмі значная. У сваей большасьці яны адносяцца або да паасобных эпізодаў або паасобных пытаньняў нашае вайсковае гісторыі. Словам, агульная вайсковая гісторыя Беларусі чакае яшчэ на свайго аўтара ці аўтараў.

За такі стан нашае ваеннае гісторыі нельга вінаваціць папярэдняе пакаленьне беларускіх гісторыкаў. Іх было замала, а заданьні, што стаялі перад імі, былі вялізарныя. Да гэтага Масква, запалоханая хуткім разьвіцьцём беларускай незалежніцкай гістарычнай навукі, зьнішчыла ейны падмурак у самых пачатках яго закладаньня. Гісторыкам-жа, што жывуць і працуюць у сучаснай БССР – а іх звыш тысячы, – пісаць на тэмы беларускай вайсковай гісторыі вельмі небясьпечна.

Што адносіцца да нашых гісторыкаў на эміграцыі, то на іх і так вялікае запатрабаваньне. Скуль-жа тады ўзяць яшчэ ваенных гісторыкаў-вайскавікоў? У запраўды сувэрэнных народаў пры ваенных акадэміях існуюць адпаведныя катэдры вайсковай гісторыі: на аналізах тактыкі мінулых бітваў, на аналізах стратэгіі асобных палкаводцяў выхоўваюцца собскія штабныя афіцэры, вывучаюцца асаблівасьці ваеннага мысьленьня свайго й чужых народаў. У нас-жа, на жаль, гэтая галіна цалкам ляжыць дзірваном.

Бязумоўна, гэта ня значыць, што сытуацыя тут бязвыхадная. Выхад можна знайсьці заўсёды. Яго толькі трэба шукаць. Мы сказалі-б навет, што ён ужо знойдзены. Маем на ўвазе наш скромны часапіс "Зважай". Як ведама, "Зважай" выходзіць рэгулярна. Гэта першы беларускі вайсковы пэрыёдык, які гэта робіць. (Дарэчы, на гэтую рэгулярнасьць аўтару гэтых радкоў зьвярнулі станоўчую ўвагу супрацоўнікі бібліятэкаў і замежных вайсковых інстытутаў, што ў сваю чаргу гаворыць на карысьць часапісу й ролі, якую ён адыйгрывае ў галіне беларускай вайсковай справы). Вось-жа, бяручы гэта пад увагу, праз "Зважай" трэба пачаць ажыцьцяўляць і ідэю апрацаваньня ваеннай гісторыі Беларусі.

Для гэтага, бясспрэчна, у першую чаргу, неабходная фінансовая помач з боку нашага эміграцыйнага грамадзтва. Наша сьвядомая эміграцыя, хоць і сьціплая, але ня бедная. Яна й даволі ахвярная, асабліва, калі гаворка йдзе пра выдавецкія справы. Трэба толькі справу падтрымкі сарганізаваць. Маючы-ж адпаведную фінансавую базу, можна было-б эвэнтуальна павялічыць і разьмер часапісу, а таксама павысіць ягоны навуковы ўзровень.

Адначасна трэба заснаваць, прыкладам, пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва, спэцыяльную сэкцыю вайсковай гісторыі, якая і занялася-б усёй справай. Для гэтага неабходна, каб беларускія гісторыкі на эміграцыі, што цікавяцца вайсковай справай, пытаньне гэтае належна абмяркавалі. Добрай нагодай для гэтага будзе сьвяткаваньне сотага юбілею першага нашага нацыянальнага гісторыка Вацлава Ластоўскага, што адбудзецца сёлета 15-га кастрычніка ў Лёндане.

Заданьнем сэкцыі было-б каардынаваць усю навуковую дзейнасьць, зьвязаную з вайсковымі справамі. Пачаць-жа гэту дзейнасьць трэба ад ваеннай гістарыяграфіі й крыніцаведы, ды апрацоўкі неабходнай бібліяграфіі й зьбіраньня матар'ялаў для абагульняючай працы з ваеннай гісторыі Беларусі. Тут значнай дапамогай могуць быць навуковыя працы нашых суседзяў, асабліва польскіх і лятувіскіх аўтараў. (Між іншым, гэтыя апошнія, за 20 год свае незалежнасьці і, здаецца, дзякуючы якраз аднаму з нашых суродзічаў, зрабілі шмат у галіне вайсковай справы, асабліва адносна пэрыяду Вялікага Княства Літоўскага, які яны цалкам прыпісваюць да гісторыі сучаснай Летувы).

Дзеля згаданых вышэй прычынаў, беларускім вайсковым гісторыкам прыдзецца, напэўна, яшчэ доўга засіраць у суседзкую літаратуру і карыстацца ёю каб поўнасьцю вывучыць гісторыю вайсковай справы на Беларусі.

Нехта можа запытацца, а як-жа мы сабе ўяўляем такую працу з ваеннай гісторыі Беларусі? Вось-жа ў першую чаргу яна мусіць заступіць скупы запас ведаў пра наша вайсковае мінулае, пра якое кажны, хто цікавіцца, павінен быў-бы ведаць. Яна павінна быць падручнікам ня толькі для вайсковых, але таксама для шырокіх колаў грамадзтва. Гэты падручнік павінен мець патрыятычны-выхаваўчы характар. У выпадку патрэбы – а яна можа ўзьнікнуць, – ён павінен служыць надзейным спадарожнікам будучаму беларускаму жаўнеру, быць ягоным неадступным сябрам, бо жаўнер станецца паўнавартасным, калі добра будзе ведаць сваё вайсковае мінулае. Гэта, у сваю чаргу спрычыніцца да ўзмацненьня ягонага патрыятызму і ўсяго, што зь яго вынікае

## НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

*Касторыадзіс, Карнэліус: "Перад аблічам вайны", т. 1, Парыж, Выдавецтва "Сэй", 1981.*

Перад т. зв. "саветалёгамі" часта паўстае пытаньне: хто ў запраўднасьці вызначае асновы замежнай палітыкі Савецкага Саюзу? Адны спэцыялісты лічаць існуючы ў СССР рэжым дыктатурай партыйнага апарату. Прадстаўнік гэтага пагляду граф. Аўтарханаў назваў яго "партакратыяй". Іншыя спэцыялісты ўважаюць, што ў СССР пануе ідэялёгія дагматычнага ладу – адсюль зьявіўся тэрмін "ідэякратыя". З выхадам у сьвет кнігі француэкага пабліцысты Карнэліуса Касторыадзіса (як выглядае, грэцкага паходжаньня), зьявіўся трэці тэрмін – "стратакратыя" – ад грэцкага слова "стратос" – армія.

Паводля Кастарыадзіса, партыя даўно ўжоператварылася ў нейкі падсобны (дапаможны) ворган стратакратыі, заданьнем якога ёсьць, у першую чаргу, сачыць за нутраным парадкам і неваеннай вытворчасьцю, а, затым, экспартаваць ідэалёгію, якая ўнутры Савецкага Саюзу даўно ўжо нікога ня цікавіць, але за мяжой яна яшчэ знайходзіць ахвотнікаў. Аўтар цьвердзіць, што працэс поўнага захопу рэальнай улады ў СССР арміяй адбыўся больш чым дзесяць год назад. Савецкая армія – адзначае Кастарыадзіс, – пачала з таго, што яна выйшла спад падпарадкаваньня партыі. Інстытут камісараў ці палітрукоў заўсёды чэрпаў свае кадры спаміж тых, хто нічога іншага, г. зн. нічога на лад, рабіць ня ўмеў. Але калі такі камісар-палітык мог адыйгрываць нейкую ролю ў арміі 20-х, 30-х, ці нават пачатку 40-х гадоў, дык ён траціць сэнс у арміі 60-х, 70-х, 80-х гадоў, дзе тэхнічныя веды й тэхнічная культура – вызначальныя.

Кастарыадзіс сьмяецца з тых саветалёгаў, якія сур'ёзна падлічваюць колькасьць ваенных у ЦК КПСС ці Палітбюро й робяць з гэтага глыбокадумныя высновы. Ён крытыкуе таксама ўлюбёныя ідэі шматлікіх спэцылістаў адносна таго, што агрэсыўная палітыка СССР, прыкладам, у Афганістане, выкліканая, маўляў, пачуцьцём акружэньня й небясьпекі. Якога акружэньня? – пытае аўтар. У запраўднасьці СССР ляжыць у цэнтры, скуль вось ужо сорак год праводзіцца няўхільна сусьветная экспансія. Хопіць прыглеоэіцца да вонкавай палітыкі Масквы апошніх дзесяцігодзьдзяў: устанаўленьне або пляцдармаў, або проста ваенных базаў у Паўднёва-Ўсходняй Азіі, у Афрыцы, у Лацінскай Амэрыцы, каб пра гэта пераканацца.

Аднак найбольш падрабязна Кастарыадзіс разглядае эканамічныя аспэкты гэтага пытаньня. Ён зьвяртае ўвагу на факт, што ваенная галіна – канкрэтна, армія і ваенная вытворчасьць, – адзінае, што ня толькі функцыюнуе, але й вырабляе ў вялізнай колькасьці прадукцыю, г. зн. зброю, якая нічым ня ўступае найлепшым заходнім узорам, у той час, як Савецкі Саюз няздольны да ніводнай цывільнай прадукцыі, якую можна было-б параўнаць да заходніх стандартаў. Чаму? А таму, што ваенная вытворчасьць пастаўлена добра, а цывільная – ніжэй усякай крытыкі.

Кастарыадзіс цалкам адкідае ўсе лічбы й выкладкі, якімі арудуюць саветалёгі, і якія базуюцца на афіцыйных савецкіх даных або на амэрыканскіх стандартах у галіне цэнаў, прадукцыйнасьці, заработнай платы й г. д. і прыходзіць да высновы, што, прыкладна, 25 мільёнаў савецкіх людзей працуюць беспасрэдна або ўскосна на армію, г. зн. на вайну. Апрача таго, ён яшчэ бярэ пад увагу й тое, што ваенная прамысловасьць і ваенныя й навуковыя інстытуты забіраюць усе найлепшыя кадры, што выходзяць з навучальных установаў, што ўвесь ваенна-прамысловы камплекс схаваны ў розных "шуплядах", як кажуць, ды дзе заработная плата й забясьпечаньне ды ўмовы жыцьця куды лепшыя чымся ў цывільным жыцьці.

Ён прыгадвае, што савецкая ваенная машына, у адрозьненьне, прыкладна, ад амэрыканскай, мае наступальны характар, і што аднэй з прычынаў зьняцьця з пасады гепэральнага сакратара ЦК КПСС была якраз ягоная ідэя пра тое, што ядзерны канфлікт немагчымы таму, што прывёў-бы да супольнага зьнішчэньня й таму неабходная запраўдная разрадка. Цяперашняя ваенная канцэпцыя СССР дапускае ядзерны канфлікт, прычым – зь перамогай Савецкага Саюзу.

Кастарыадзіс падкрэсьлівае таксама, што ўжо на працягу шматлікіх гадоў пастановы й патрэбы савецкага ваенна-прамысловага комплексу былі заўсёды й безагаворачна прынятыя ЦК і ўрадам, якія ператварыліся звычайных выканаўцаў.

Аўтар спыняецца на ідэйна-тэаратычнай падкладцы гэтай дзейнасьці, накіраванай на сусьветнае панаваньне. Ён нагадвае, што з усіх элемэнтаў марксістоўскай тэорыі цяперашнія ўладары маскоўскае імпэрыі захавалі адно катэгорыю гвалту й панаваньня, і што марксізм-ленінізм, калі гэта мае штосьці значыць наагул, заменены нацыянальна-імпэрскай ідэялёгіяй. І калі ў савецкім друку сустракаецца крытыка пад адрасам нацыяналістычных адхіленьняў, дык толькі адносна нерасейскіх народаў, Расейцаў-жа за гэта ніколі ня ўпікаюць. Культ Івана Грознага, Патра І-га й Сталіна працуе ў тымсамым кірунку.

Магчыма, што думкі францускага пабліцысты й спрэчныя. Але адно ёсьць пэўнае: ягоная праца займе сваё месца ў галіне саветалёгіі. Кастарыадзіс разьбівае пашыранае на Захадзе ўяўленьне пра савецкі рэжым як прасацыялістычны, або рэжым, які мае якое-небудзь

## ДА ПЫТАНЬНЯ...

У гэнай працы павінны быць адлюстраваныя асноўныя рысы гісторыі беларускага войска ў ягоных галоўных праявах, схарактарызаваная сыстэма вайсковай арганізацыі і ўзбраеньня кажнага з пэрыядаў, адначасна з разьвіцьцём асобных вайсковых інстытуцыяў і прычынаў, якія выклікалі зьмены ў арганізацыі войска, а затым і ў тактыцы і наагул у ваеннай дактрыне; паказанае ваеннае майстэрства і вайсковая практыка беларускіх узброеных сілаў. Усё гэта павінна быць ілюстраванае аналізам найбольш характэрных бітваў, якія вялі нашыя палкаводцы. Ня менш важнай, калі не найважнейшай мэтай такой працы мусіць быць паказаньне самым сабе й чужынцам, што наагул маем вайсковую гісторыю, што гісторыя гэта тысячагадовая й вельмі багатая й што мы можам ганарыцца ёю.

## БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ ЦАНТРАЛЬНАЯ РАДА

(У 65-я ўгодкі ўтварэньня)

Ген. Ф. Кушаль, у сваім прывітаньні беларускім камбатантам у Вялікабрытаніі, з нагоды склiканьня II Зьезду ЗБКВБ, што адбыўся ў Лёндане 8. 1. 1950 г., адзначыў (гл. "Змагар", № 2, 1950, бб. 5-6, а таксама "Зважай", № 4 (24), 1981, бб. 1-2): "У гісторыі апошніх некалькі дзясяткаў год наш народ меў тры разы магчымасьць арганізаваць сваё войска, аднак выканаць гэтага ня мог. Першай нагодай была расейская рэвалюцыя 1917 году, калі царская Расея развалілася, а Беларусы, масава змабілізаваныя ў царскую армію, чакалі толькі на сваіх арганізатараў і камандзераў. (Другой нагодай, паводля ген. Кушаля, была польска-бальшавіцкая вайна 1919-1920 гг., а трэцяй – Беларуская Краёвая Абарона ў 1944 г.). Маленькая група маладых вайсковых беларускіх энтузіястаў-патрыётаў не магла арганізацыйна ахапіць беларускую жаўнерскую масу ў хаосе рэвалюцыі. Адзін з царскіх генэралаў, Беларус, нацыянальна быў настолькі нявыйрабленым, што ня мог адразу мець ідэю незалежнасьці Беларусі і, ня верачы ў яе, ня мог выканаць узложанага на яго заданьня".

Слушнае і, адначасна, вельмі актуальнае цьверджаньне. Слушнае, бо запраўды мы мелі ўжо некалькі нагодаў, каб адрадзіць слаўныя калісьці беларускія збройныя сілы, беларускае нацыянальнае войска, але, на жаль, дзеля розных прычынаў, ідэі гэтай мы не змаглі ажыцьцявіць.

Актуальнае, бо наступная нагода можа ўзьнікнуць у кажны момант, калі мы найменш гэтага спадзяемся. Ня выкарыстаць-жа яе гэтым разам мы ня маем права – гісторыя ніколі нам гэтага не даравала-бы.

А каб гэтае "чацьвертае нагоды" не змарнаваць, мы павінны падрыхтавацца: у першую чаргу павінны ведаць прычыны папярэдніх няўдачаў і асабліва першае зь іх, бо яна будзе мала розьніцца ад тае, што можа ўзьнікнуць у выпадку выбуху міжнароднага канфлікту. Таму неабходна вярнуцца да падзеяў 65-гадоўай даўнасьці ў Беларусі, прааналізаваць іх і зрабіць адпаведныя высновы, каб не паўтарыць гістарычных памылак. З гэтай мэтай і выкарыстоўваем нагоду 65-х угодкаў утварэньня Беларускай Вайсковай Цантральнай Рады, бо яна была адным з галоўных дзейнікаў таго пэрыяду і адыйграла вялізарную ролю ў адбудове незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

Як ведама, БВЦР была створаная пастановаю зьезду Беларусаў – жаўнераў Заходняга Фронту й прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў XII-й арміі, Балтыцкай Флёты й Румынскага Фронту, які адбыўся ў Менску ў днях ад 31.X да 6.XI (паводля новага стылю) 1917 г. (гл. "Зважай", № 4(20), 1980, б. 3). Ня гледзячы, аднак, на важнасьць гэтае ролі, тэма БВЦР у беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі распрацаваная яшчэ недастаткова.

Варта адзначыць, што навет Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, гэтак універсальная, як і Кароткая, не абыйшлі яе маўчаньнем: кароткія заценкі пра БВЦР можна знайсьці ў БелСЭ, т. 2, б. 221 і КБСЭ, т. 1, б. 695. Таму тым больш вартасьць маюць успаміны Кастуся Езавітава, аднаго з арганізатараў БВЦР і актыўнага ўдзельніка тагачасных падзеяў; успамінаў, што былі зьмешчаныя ў 1924 г. у часапісе "Крывіч", які выдаваў у Коўні ў першай палове 20-х гадоў Вацлаў Ластоўскі-Власт (сотыя ўгодкі нарадзінаў якога ёсьць сёлета ў кастрычніку).

*(Далей будзе)*

*Язэп Барэйка*

************************************************

дачыненьне да сацыялізму, даводзячы, што гэта найбольшая містыфікацыя ў гісторыі, што савецкі рэжым – гэта рэжым эксплёатацыі й прыгнёту, даведзенага да ступені раней няведамай, у якім бюракратыя сталася дамінуючай клясай. Цэнтрам-жа і актыўным ядром гэтай бюракратыі стаўся палітычны апарат камуністычнай партыі.

"Паўтараць бесканечна, што Расеяй кіруе дзяржава-партыя, – кажа аўтар, – не памагае разуменьню нядаўных зьяваў і ня кідае сьвятла на эвалюцыю рэжыму, на ягонае ідэялягічнае амярцьвеньне, на ягонае спаўзаньне ад палітычных катэгорыяў да сфэры ваеннай, да сфэры грубай сілы". Вось гэта й ёсьць галоўная думка Кастарыадзіса.

*ВІНШУЕМ*

*архімандрыта Ўладзімера Тарасэвіча, новага Біскупа Марыямітанскага і Апостальскага Візытатара для Беларусаў Каталікоў*

з нагоды

хіратоніі 8-га верасьня ў Чыкага сёлета.

*Жадаем Уладыку Ўладзімеру здароўя, вытрывааласьці й доўгіх год службы для Бога й паняволенай яшчэ Бацькаўшчыны Беларусі.*

"ЗВАЖАЙ"

************************************************

*АДКАЗ ЦІВУНУ **

Жыве Бажко, ці бошка-мошка,
Жыве такая недарэка;
У галаве тэй глузду крошка, –
Ну й што ты хочаш з чалавека?

З Вадовіц зганіў "багаслова"
І нафашысьціў ён Акулу, –
Заўсёды да паслуг гатовы
Для кадэбэшніцкае скулы...

*/ У вадказ на "невялікі вершаваны твор" Алеся Бажко, "Літаратура і Мастацтва", Менск, 25. 2. 1983 г. "На вузкай кладцы", бач. 16.

************************************************

## ЛЕЙТАНАНТУ ПЯТРУ КАЖУРУ – 70 ГОД

Сёлэта ў нядзелю 24.6., пасьля сьв. Літургіі ў Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд Парку быў адслужаны малебен з нагоды 70 угодкаў ад нараджэньня Пятра Кажуры.

Пасьля службы ўсе прысутныя зыбраліся ў царкоўнай залі на пачастунак, нарыхтаваны жонкай Марыяй і сынам Альгердам. Айцец Аляксандар вітаў саленізанта й згадаў ягоныя заслугі ў царкоўнай галіне. Сп. Ул. Русак гаварыў пра заслугі сп-ра Кажуры ў грамадзкай плошчы наагул, а Камандзер Вэтэранаў Усходняга Узьбярэжжа С. Гутырчык прыгадаў вялікія заслугі лейт. Кажуры, як скарбніка ў будове помніка Беларускім



Лейт. П. Кажура між вэтэранаў.

Гэроям, ды як заўсёднага дэлегата ў 88-м Пасту Вэтэранскага Хаўрусу Даліны Рарытан, дзе мы належым, як роўныя сябры, да амэрыканскіх вэтэранаў.

Выступіў з прамовай інж. Васіль Русак, які падкрэсьліў стойкасьць характару саленізанта. Ад Беларуска-Амэрыканскае Моладзі вітаў ейны старшыня інж. Юрка Азарка, а ад парафіі – старшыня Гэнадзь Дубяга.

Лейт. Кажура дзякаваў усім прысутным, а насамперш жонцы Марыі ды а. Аляксандру. Ён коратка расказаў пра свой жыцьцёвы шлях ды зазначыў, што ніколі й нідзе не адлучаўся ад беларускае справы. Прысутныя прасьпявалі яму "Сто год".

Бяседа трывала коратка, бо мусілі ехаць на пашыранае паседжаньне ў Нью Ёрк, якое склікаў старшыня БАЗА ў доме Фундацыі Крэчэўскага, дзе пасьля сходу зноў адзначылі 70 ўгодкі жыцьця Кажуры.

*Сяргей Пчала*

*************************************************

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 2-га траўня да 5-га жнівеня сёлета на "Зважай" атрыманы наступныя ахвяры й падпіска:
К. Акула (з продажы) – 10,00 дал., Клюб "Сакавік" – 38,05, М.Нікан (з продажы) – 9,80, Я.Гавеньчык (з продажы) – 9,80, Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў – 60,00, К. Мярляк – 25,00, Б.Даніловіч – 12,00, Субота – 12,00, С. Гутырчык (з продажы) – 32,40, Койка – 6,00, сп-ня Ю. Андрусышын – 6,00, Ч. Найдзюк – 6,00, Я. Гавеньчык (з продажы) – 14,45, В. Кажан – 12,00, М. Скабей – 10,00, Г. Шайпак – 10,00, А. Драздова – 6,00, П. Кулеш – 12,00.

Разам – 291,50 дал.

За помач вельмі дзякуем.

## *ВЫКЛІКАЕМ ЯНКУ КІЛБАСУ!*

У 1974 годзе, у Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў на чужыне, у Манчэстары, актыўны ўдзел браў і час-ад-часу актыўны ў мясцовым грамадзкім і царкоўным беларускім жыцьці Янка Кілбаса.

Ён запрапанаваў удзельнікам Сустрэчы, што зробіць памятны шчыток пра гэту гістарычную падзею. Прататып такога шчытка, із драўлянай падстаўкай, каб вы, прыкладна, маглі паставіць яго на карнізе над камінкам, Янка Кілбаса паказваў усім, што жадалі-б купіць яго. Тады-ж Янка Кілбаса пачаў зьбіраць на лісту па адным анг. хуньце й быў голасна апавесьціў, што ўжо сабраў 32 хунты.

Як старшыня выбранага тады Камітэту Сувязі Беларускіх Вэтэранаў, лічу сваім абавязкам паведаміць усіх зацікаўленых, што ад таго часу ня чуў нічога ад Янкі Кілбасы ані пра шчыток, ані пра сабраныя ім грошы. Дык цяпер гэтым шляхам, да Вас, Янка Кілбаса, публічнае пытаньне: Што сталася з Вашым добрым праектам? Дзе тыя, сабраныя Вамі грошы?

Вельмі просім нам на гэтыя пытаньні адказаць і Ваш адказ зьмесьцім у наступным нумары "Зважай".

*К. Акула*

---

## *ПРАЕКТ СУСТРЭЧЫ ВЭТЭРАНАЎ*

Налета выпадаюць наступныя важныя ўгодкі: 120 год ад сьмерці нац. гэроя Кастуся Каліноўскага, 40 год ад утварэньня БКА, 10 год ад Першай сусьветнай сустрэчы Беларускіх быўшых вайскоўцаў.

У сувязі з гэтым мы атрымалі прапанову ад Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, каб у днях 1-4-га ліпеня наладзіць сустрэчу вэтэранаў, прысьвечаную гэным угодкам у Нью Брансвіку, каля Нью Ёрку.

Усіх зацікаўленых, асабліва тых з замежных краін, просім выказацца ў гэтай справе, надтане адкладаючы. Нам важна ведаць, хто спаза ЗША мог-бы прыехаць на прапанаваную сустрэчу дый вашыя агульныя думка адносна яе.

*Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў*

*************************************************

СЬВ. ПАМ. ПАВАЛ НАВАРА

17.9.1927 – 24.5.1983

Калішні кадэт Школы Камандзераў БКА ў Менску, беларускі вэтэран, грамадзкі працаўнік, адыйшоў у вечнасьць у Лёндане. Выказваем спачуваньні жонцы й дзецям.

Вечная яму памяць.

*"Зважай"*

*************************************************

## *ПРОСЬБА ДА ЧЫТАЧОЎ*

Хто мае № 1 "Зважай" за 1974 год ды можа зь ім расстацца, просім прыслаць нам, каб выслаць яго ў бібліятэку ў Нью Ёрк, якая гэты № патрабуе. Для нас важна, каб бібліятэка мела камплет часапісу. За такую ахвярх будзем вельмі ўдзячныя.